# Тунгускі метэарыт

30 чэрвеня 1908 года ў Сібіры ўпаў гіганцкі метэарыт, названы пазней Тунгускім па месцы яго падзення. Уварваўшыся ў зямную атмасферу з вялікай касмічнай скорасцю, велізарнае нябеснае цела выклікала мацнейшыя аптычныя, акустычныя і хімічныя з'явы. Адзін з жыхароў, які знаходзіўся прыкладна ў шасцідзесяці кіламетрах ад месца падзення, быў скінут з ганка свайго доміка і адкінут на некалькі метраў у бок без прытомнасці, а ў хаце выбіла вокны, раскідала рэчы. Гукавы грукат ад выбуху быў чуцны на адлегласці звыш тысячы кіламетраў; павеграную выбуховую хвалю зарэгістравалі нават у Германіі і Англіі. Прычым у Каліфорніі, дзе ў той час сістэматычна вымяралася празрыстасць зямной атмасферы, на працягу некаторага часу фіксіравалася памутненне паветра, а першая ж ноч пасля падзення метэарыта паўсюдна ў Еўропе і Заходняй Сібіры аказалася незвычайна светлай. Нават на Каўказе поўнач была настолькі яснай, што людзі свабодна чыталі газеты без штучнага асвятлення. Прасветленыя ночы канчаткова спыніліся толькі к канцу жніўня.



Жалезны метэарыт Багуслаўка, які ўпаў на Далёкім Усходзе ў выглядзе двух жалезных глыб, агульнай цяжкасцю 257 кілаграмаў

Доўгія гады Тунгускі метэарыт заставаўся загадкай для навукі. Справа ў тым, што ва ўмовах царскай Расіі навуковыя даследаванні знаходзіліся на вельмі нізкім узроўні. Вывучэнне месца і абстаноўкі падзення гіганцкага нябеснага цела пачалося толькі ў савецкі час, праз дзевятнаццаць год. Толькі летам 1927 года на беразе Падкаменнай Тунгускі была накіравана першая навуковая экспедыцыя. Яе ўзначальваў вядомы савецкі вучоны Л. А. Кулік, які пазней правёў яшчэ дзве экспедыцыі да месца падзення метэарыта. Была зроблена аэрафотаздымка паваленага выбухам лесу, якая дазволіла атрымаць фотаплан мясцовасці і вынікаў выбуху. Нажаль, вайна прыпыніла цікавую навуковую работу, а вучоны Л. А. Кулік загінуў у 1942 годзе ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі.

Што ж прадстаўляў сабой Тунгускі метэарыт?

Вядома, што метэарыты — гэта жалезныя і камяністыя целы, якія ўрываюцца ў паветраную абалонку нашай планеты з касмічнай прасторы пры вельмі вялікіх скорасцях. Падлічана, што штогод на ўвесь зямны шар падае прынамсі тысяча нябесных цел. Аднак з гэтай немалой колькасці выяўляецца ўсяго да пяці метэарытаў, астатнія або гінуць у марах і акіянах, або губляюцца ў пустынных мясцовасцях, або проста застаюцца незаўважанымі людзьмі. Звычайныя метэарыты маюць даволі малыя размеры і важаць ад дзесяткаў грамаў да дзесяткаў кілаграмаў. Целы вагой у сотні кілаграмаў сустракаюцца вельмі рэдка, а такія гіганты, як Тунгускі метэарыт, — наўрад ці часцей, чым раз у некалькі вякоў, а можа быць, і раз у тысячагоддзе.

Тунгускі метэарыт паявіўся 30 чэрвеня 1908 года на бязвоблачным небе ў выглядзе яркага вогненнага шара, які пранёсся над тэрыторыяй Цэнтральнай Сібіры на працягу некалькіх секунд з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, пакідаючы за сабой пылавы след. Сам вогненны шар, названы балідам, назіраўся ў руху ў выглядзе гіганцкай вогненнай паласы, за якой слаўся пылавы віхор. Над месцам падзення метэарыта відавочцы бачылі велізарнае полымя, пасля чаго раздаліся аглушальныя выбухі. У радыусе 30—40 кіламетраў, як гэта выявіла першая навуковая экспедыцыя, тайга аказалася паваленай, прычым дрэвы ляжалі карэннямі да цэнтра выбуху.

На падставе сучасных даных навукі аб метэарытах можна лічыць устаноўленым наступнае аб Тунгускім гіганце. Маючы велізарную пачатковую масу, магчыма нават у сотні тысяч тон, Тунгускі метэарыт прабіў таўшчыню зямной атмасферы і са страшэннай сілай ударыўся аб паверхню Зямлі. Адбылося імгненнае пераўтварэнне энергіі руху ў цеплыню. Галоўная маса імкліва ператварылася ў распаленую пару, выклікаўшы, такім чынам, выбух і выбуховую хвалю. Таму, бадай, шматразовыя пошукі кавалкаў метэарыта і засталіся без поспеху. Ад нябеснага цела маглі ўцалець толькі асобныя асколкі ды пыл, якія рассеяліся навокал і праніклі ў грунт.

Гэты вывад аб выбуху метэарыта нядаўна знайшоў свае пацвярджэнні ў выніку вывучэння ўзораў глебы, дастаўленых з берагоў Падкаменнай Тунгускі вучоным Кулікам яшчэ ў час знаходжання там першых экспедыцый. У грунце былі выяўлены драбнейшыя пылападобныя часцінкі нікелістага жалеза. Хімічны і спектральны аналізы паказалі іх метэарытнае паходжанне. Такі метад даследавання пачаў прымяняцца пасля вывучэння другога буйнейшага метэарыта — Сіхотэ-Алінскага, які ўпаў на Далёкім Усходзе 12 лютага 1947 года. Ад гэтага метэарыта ўдалося сабраць значныя рэшткі.

Знаходзяць поўнае тлумачэнне і светавыя з'явы, якія назіраліся пасля падзення Тунгускага метэарыта. Аказваецца, у паветры была распылена велізарная колькасць рэчыва нябеснага цела. Гэты пыл значна паглынаў сонечныя праменні днём, ноччу ж адбіваў і рассейваў праменні сонца, абумоўліваючы светласць начэй.

Трэба сказаць, што вывучэнне Тунгускага метэарыта далёка не закончана. Зусім нядаўна, 3 чэрвеня, з Масквы ў Сібір выехала новая экспедыцыя, пасланая Камітэтам па метэарытах Акадэміі навук СССР. Галоўная задача гэтай экспедыцыі — сабраць як мага больш узораў глебы, каб мець магчымасць лепш вывучыць метэарытнае рэчыва. Магчыма, удасца знайсці, акрамя пылападобных часцінак, і больш буйныя асколкі нябеснага цела.

Вывучэнне нябесных цел, якія пранікаюць на зямлю з міжпланетнай прасторы, — спецыяльная галіна навукі. Яна дапамагае вырашыць праблему паходжання Зямлі, указвае на будову Сусвету, высвятляе сумесна з астраноміяй заканамернасці руху вялікіх і малых нябесных цел. Розум чалавека і яго праца стварылі штучныя касмічныя целы — спадарожнікі Зямлі, якія рухаюцца па зададзеных маршрутах і паведамляюць чалавеку аб стане «надвор'я» ў міжпланетнай прасторы. Недалёка, бадай, і той час, калі міжзорны карабель панясе чалавека на іншыя планеты.

## Сельскагаспадарчыя парады

### Аграном раіць

Л. ЛЯШУК З БЕЛЬСКАГА ПАВЕТА ПЫТАЕ: *Які час найбольш адпаведны на капанне бульбы?*

Найлепшы час на капанне бульбы, тады, калі, вырываючы карчы, клубні добра адрываюцца ад падзямных сцяблінак. Клубні, якія даспелі, маюць цвёрдую лупіну. Лупіна такая не здзіраецца пазногцем.

М. МІХАЛОЎСКІ З СЕМЯЦІЦКАГА ПАВЕТА ПЫТАЕ: *Як перахоўваць бульбу зімою?*

Калі бульба дрэнна перахоўваецца зімою, тады атрымоўваюцца вялікія страты, таму што з бульбы выпароўвае вялікая колькасць вады і ў выніку таго — бульба гніе, і пускае храсткі. Страты могуць даходзіць да 50 прац. і больш. Найлепш перахоўваць бульбу ў копцах. Перахоўваючы бульбу ў копцах, трэба ўтрымоўваць адпаведную тэмпературу і вільгаць (3,6°С, а вільгаць 65 — 75 прац.). Бульба павінна быць здаровай і прасушанай. Копцы да перахоўвання бульбы павінны быць шырынёю 1,5 м і не вышэйшы, як 1 — 1,10 м. Зямлю пад копцам трэба выбраць на глыбіню 10 см. і дно выраўняць. Даўжыня копца павінна быць не больш як 20 метраў. Копец прыкрываем саломай (40—50 см). Бульбу найлепш атульваць жытняй саломай, таму што ў іншай саломе заводзяцца мышы. Пасля салому трэба прыкрыць тонкім пластам зямлі. Верх копца, пачаткова трэба пакінуць не прываленым зямлёю, толькі пад саломай. Зямлёю накрыць толькі тады, калі набліжыцца пара прымаразкаў (тэмп. да 3—5°С.

# Дзіўны туман

Дзіўны пейзаж мае наш Беластоцкі павет. Возьмем для прыкладу аколіцы такіх вёсак, як: Мастаўляны, Свіслачаны, Зубкі, Вейкі, Падазераны. Калі хто з вас будзе ў гэтых аколіцах, няхай зверне ўвагу на аднолькавы ўсюды від на гарызонт. Дзе ні гляне чалавечае вока, кругом лес і лес. Ды найчасцей у нас так бывае.

Але лепш мо' выбярэмся на прагулку па нашай зямлі. Я ўжо, калі вы згодны, ахвяруюся быць вашым праваднікам. Пачнем ад граніцы.

Падыходзім да Мастаўлян, там дзе стаяў калісьці млын. Цяпер толькі стоўбікі і бярвенні ляжаць у тым месцы, утвараючы сабою як бы вадаспад Давайце прысядзем тут і пад шум вады разглянемся па аколіцы.

Ззаду нас засталася вёска, а злева на ўзгорачку стаіць царква. Далей улева — балоты, на якіх сарамліва стаяць параскіданыя стагі сена. Не паспелі гаспадары ў час яго сабраць: перашкодзілі дажджы.

А цяпер давайце выйдзем з зялёнага акіяна.

Ідучы ўправа, выходзім на чыгунку, па якой пойдзем на захад. Чыгунка з двух бакоў абсаджана жываплотам, ад часу да часу сустракаюцца тут хаты. За вёскай Зубкі, якая стаіць каля самай рэчкі, мы бачым станцыю. Гэта Крынкі. Поезд якраз нам пасуе, праедземся. Людзей на станцыі многа, яны едуць на работу, большая частка ў Беласток. Поезд ідзе амаль цэлую гадзіну праз лес, і гэтак будзе да самага Беластока, але ў Валілах мы высядаем.

Калі мы знаходзімся ўжо так блізка ад Гарадка, то павінны паглядзець нядаўна пабудаваную, цудоўную па сваёй архітэктуры царкву. Пабудавана яна старагрэцкім стылем з выпуклымі, як надутыя шары, вежамі.

Далей ідзем па шырокім, манатонным прасторы палёў, акружаных вузкімі паясамі загайнікаў.

Калі сонца заходзіць пагодна, хаваючы свой чырвоны твар за лесам, вечар наступае ціхі, і хутка на небе паказваюцца зоркі, нібы агеньчыкі чыёй рукою запаленыя. Потым на рассветленым зоркамі небе ўстае месяц, прыжмурваючы вока, калі трапіць на перашкоду. Калі неба пахмурнае, тады месяц паказваецца на хвілінку, каб глянуць на зямлю, ды хутка зноў, як бы ў страху, хаваецца за хмары.

Бывае так, што ўдзень ліе дождж, а пад вечар выпагоджвае, робіцца ціха і цёпла. Па далінах, над лугамі і сажалкамі, паважна шпацыруе туман, з-пад якога чутны радасныя песні жаб. Адны раскошна кумкаюць: кум... кума..., кум... кумааа... іншыя заводзяць сваё крэ... крэ. Паветра тады такое мяккае, прыемнае, што хацелася б усё яго ўдыхнуць у грудзі.

А як прыгожа тут раніцай, калі на ўсходзе расце ўсё яснейшая і яснейшая паласа святла...

Асцярожна выглядае з-за лесу сонца, як бы баючыся, ці не прагоніць хто яго, і, кідаючы доўгія цені, пачне ўсміхацца на бледным небасхіле. У туманную раніцу яшчэ больш дзіўна яно ўзыходзіць. Густы туман, як хмара, засланяе сонца, але яно перамагае ўпартую заслону і поўным бляскам пазірае з неба. Туман яшчэ доўга ходзіць па далінах і, нездаволены сонечнымі праменнямі, не можа рашыць, ці ўцякаць, ці яшчэ паснаваць трохі.

Вось на гэтай паляне я часта пас кароў. Вы, напэўна, ужо змучыліся, прайшоўшы такі кавалак дарогі. Давайце адпачнем трошкі, а я раскажу вам, што аднойчы здарылася са мною на гэтай паляне.

Была туманная раніца, але туман плёўся нізка па зямлі — вячэрнім звычаем, так што сонца свяціла свабодна. Але не доўга я цешыўся яго праменнямі, бо туман зрабіўся большы, і закрыў неба. Праз некалькі хвілін я ўбачыў, што з-за невялічкага хвайнячка паказваецца дым.

— Пастухі галлё падпалілі, — мільганула ў мяне думка.

Але бачу, з-за хвайняка паказваюцца ўсё большыя клубы дыму.

— У чым справа? — спужаўся я і пачаў падганяць далей кароў, каб падбегчы і ўбачыць, што там такое.

І праўда, з лесу паказваўся дым. Думаў, мо' «пацаны» незнарок падпалілі лес.

Я перабег на другі бок, але там нічога не было відаць, толькі па паляне слаўся густы туман. Я пабег далей берагам лесу, яшчэ далей, але і там, адкуль дым выходзіў, нічога не было. Я перабег ізноў на другі бок лесу і тут толькі зразумеў!..

З лесу выходзілі вялікія клубы імглы, якая мела дзіўны сінявата колер — ну, як сапраўдны дым. Я, не чакаючы больш, дзьмухнуў, колькі сіл у нагах, да кароў, якія не зявалі і са смакам пачкавалі авёс. Праз некалькі мінут з лесу выплыла цёмная хмара, абнімаючы вяршыні сосен. Яна плыла проста на мяне. Адразу стала холадна і пацямнела. Хмара плыла каля паўгадзіны на вышыні якіх 50 м. Потым раптоўна сонца зноў засвяціла на небе, і настаў пагодны дзень. Такіх з'яў мне дагэтуль бачыць не прыходзілася.

ЯНКА КАЗБЕРУК
Мастаўляны
Беластоцкі павет

